# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 18 (531) Год XI 1 МАЯ 1966 г. Цана 60 гр.

# КУЛЬТУРНЫ МАЙ

Май можна проста месяцам культуры назваць: 1 Май — свята працы і вясны, 3 май — пачатак Дні асветы, кніжкі і прэсы і 175 гадавіна канстытуцыі 3 мая (першай дэмакратычнай канстытуцыі ў свеце, якая была вынікам у гісторыі Польскай дзяржавы адраджэння духа прагрэсу і асветы), 9 май — канец вайны, 15 май — дзень дзеяча культуры, 29 май — народнае свята.

Вядома, усяму свеціць Тысячагоддзе Польскай дзяржавы. На ўсе пачынанні ў культуры і не культуры падае прамень гэтага важнага Юбілею.

### МЫ БЕЛАРУСЫ З НАШАЙ ГІСТОРЫЯЙ

уключаемся поўнасцю ў гэтыя святы. З нашай беларускай асветай, з нашымі беларускімі кніжкамі, з нашай беларускай адзінай «Нівай». Гісторыя беларускай кніжкі, асветы і «Нівы» цікавая, цікавая! Гісторыю «Нівы» ведаем. Яна тварылася і тварыцца на нашых вачах і нашымі рукамі. Ад нас залежыць роскміт «Нівы». Май — дні прэсы, значыць у нас — «Нівы», нашай беларускай «Нівы».

### БЕЛАРУСКАЯ АСВЕТА

і кніжка сваімі корнямі сягаюць у вельмі сівую і глыбокую старыну.

Быў пачатак 16-га стагоддзя. Ва ўсёй Еўропе — час Адраджэння. Пісьменнікі пісалі, мастакі малявалі, друкары друкавалі. Кніжка пакідала манастыры і духавенства, выходзіла да народа. Гэта (цяпер нам нялёгка зявіць) была рэвалюцыя на тыя часы небывалая. Як грыбы пасля дажджу выраслалі ўсенародныя асветнікі, якія жыццё і свой розум ставілі на службу простых людзей, тлумачылі ім кніжкі і друкавалі іх.

### ЯК КАРАБЕЛЬ НА ШЫРОКІМ МОРЫ

Беларусь у гэтай асветнай 16-вечнай рэвалюцыі займала вялікае месца. На ўсход ад яе, у толькі што вызваленых ад татараў і аб'яднаных Іванам III рускіх землях, толькі кшталтавалася руская нацыя і руская дзяржава, а голас Скарыны, Буднага, Цяпінскага ўжо тады клікаў да асветы і гуманізму.

Скарына быў на шырокіх прасторах, як карабель на моры — адзіны, непаўторны. Потым рушылі за ім іншыя. Але ва ўсёй усходняй Еўропе ў І-шай палове 16 стагоддзя няма з кім параўнаць беларускага асветніка і друкара Георгія Францішка Скарыны. Пераклад яго Бібліі на старабеларускую мову быў першым перакладам ва ўсходне-славянскіх мовах.

Скарына тварыў для народа. Чулым сэрцам беларуса балюча пераажываў цемнату і непісьменнасць народа. Сваімі тлумачэннямі, прадмовамі і друкарскай дзейнасцю адкрыў дзверы да асветы і кніжкі на роднай зразумелай мове.

Місію Скарыны прадаўжалі Будны, Цяпінскі, многа невядомых па прозвішчах людзей, пасля якіх засталіся іх творы, іх кніжкі.

### БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА Ў ПОЛЬСКІХ ГРАНІЦАХ

У 1569 годзе ў выніку люблінскай уніі Беларусь як складовая частка Вялікага Княства Літоўскага была фармальна спалучана з Рэчыпаспалітай.

Увесь багаты плён асветнай, пісьменніцкай і друкарскай дзейнасці беларусаў аказаўся ў межах польскай дзяржавы.

### СУПОЛЬНЫЯ СУВЯЗІ

культуры беларускага і польскага народаў заўсёды былі для сябе блізкімі. Таму мы, як прыемнікі Скарыны і іншых вялікіх беларусаў, ведаем: Тысячагоддзе Польскай дзяржавы гэта і для нас свята, гэта наша Свята Тысячагадовай Беларускай Культуры.

У Дні асветы, кніжкі і прэсы прыпамінаем аб гэтым. (вл)



Май.

Фота Я. Чэрнякевіч

*У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ*

## Цэнтральныя Мілейчыцы

Нядаўна я пісала аб Мілейчыцах. Была тады яшчэ зіма, холад. Пераймалася я холадам, якім веяла з некаторых месц у Мілейчыцах. Але вясна на добра і, будзем мець надзею, на доўга прыйшла і ў гэтае мястэчка, якое мае ўсе атуты, каб ў хуткай будучыні стацца цэнтральным у ваколіцы, як сонца ў сваёй сістэме.

Многае паказвае на тое, што Мілейчыцы прабудзіліся. Сёння, абмінаючы іншыя справы, толькі аб калектыве людзей, якія рванулся ў высокі палёт і задэманстравалі вялікі талент — па-першае, неспакойны дух — па-другое, згодную работу — па-трэцяе. Мова аб калектыве мілейчыцкіх людзей, якія паставілі п'есу *Алеся Барскага* «Гарадскія госці».

Незвычайнасць мілейчыцкага здарэння ў тым, што людзі тут не хапіліся. старым звычаем за «папулярныя штучкі», а за п'есу новую, з новым зместам і нялёгкую для пастаноўкі.

Аўтар *Алесь Барскі* вядомы паэт - лірык у адказ на аграмаднае запатрабаванне на рэпертуар, прысеў за стол драматургіі і напісаў п'есу. Зрабіў яе не па-беларуску гаварлівую, расцягнутую, з мностввам патрыятычнага пафасу. Публіцыстычны тон п'есы, асабліва ў карціне ў святліцы, робіць п'есу ненатуральнай.

Гэта толькі ўспамін аб мінусах п'есы, якія можна пры пастаноўцы тушаваць, змяняць (аўтар згодны). Плюсаў п'еса мае многа і таму няхай жыве.

Пачатковая сцэна, размова мужа з жонкай, поўная цеплыні і тыповасці, належыць да найлепшых. Заслуга ў тым *Георгія Астапкевіча і Марыі Тынкевіч* (муж і жонка толькі ў п'есе), якія сумелі дасканала гэтую сцэну зайграць, хоць толькі сядзелі і гаварылі.

*Марыя Тынкевіч* — высока інтэлігентная сялянка, маці трох дзяцей. Яе постаць на сцэне праз усю п'есу — гэта аздоба.

*Георгій Астапкевіч* іграе таксама добра, толькі замоцна і многа крычыць.

Не магу паўстрымацца, каб не пахваліцца *Светаславам* (хіба звычайна Слаўкам) *Яновічам*, які іграе Васілька. Яго роля ў словах вельмі скупая, тым цяжэйшая.

(Працяг на стар. 4)



Беласток.

Фота К. Лес

# СА СВЯТАМ ПЕРШАМАЯ!

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

■ Нацыянальны сход Францыі завяршыў абмеркаванне пытання аб выхадзе Францыі з аб'яднанай ваеннай арганізацыі Паўночна-Атлянтычнага саюза. Спрэчкі ў Нацыянальным сходзе паказалі, што пераважная большасць дэпутатаў падтрымлівае знешнюю палітыку ўрада. За падначаленне ўзброеных сіл краіны ваеннаму камандванню НАТО і за захаванне амерыканскіх ваенных баз на тэрыторыі Францыі выказаліся толькі аўтары рэзалюцыі недавер'я — дэпутаты ад сацыялістычнай партыі (СФІО) і «дэмакратычнага аб'яднання».

У заключэнне спрэчак выступіў прэм'ер-міністр Жорж Пампіду. Ён падкрэсліў, што рашэнне аб выхадзе з аб'яднанай ваеннай арганізацыі «было прынята Саветам міністраў аднагалосна».

Адзначаючы негрунтоўнасць ваеннай дактрыны НАТО, прэм'ер-міністр Францыі ўказаў, што «ў эпоху ракет, якія могуць паразіць Францыю за адну, дзве або тры мінуты, а ЗША — за якіх-небудзь пятнаццаць мінут з моманту іх запуску з усходу, яна выглядае такім жа анархізмам, як, напрыклад, стогадовая вайна». «Калі ў Еўропе ў трэці раз успыхне пажар вайны, — дадаў ён, — гэта будзе ядзерная вайна, і Еўропа знікне з зямлі».

«Францыя залячыла раны, якія ёй прычыніла вайна, — сказаў Пампіду ў заключэнне. — Яна вызвалілася ад выпрабаванняў, звязаных з дэкаланізацыяй, мае ўласную дзяржаву, уласную валюту, уласныя ўзброеныя сілы, уласную палітыку. З усяго гэтага трэба зрабіць адпаведныя вывады. Францыя павінна ўсталяваць сваю незалежнасць, заняць сваё месца сярод нацый». І «незалежная Францыя», якая самастойна вызначае сваю палітыку, зможа выкарыстаць усю сваю вагу для дасягнення зближэння паміж Усходам і Захадам, зближэння, ад якога залежыць будучыня Еўропы і мір ва ўсім свеце».

Нацыянальны сход большасцю галасоў адхіліў рэзалюцыю недавер'я ўраду. Яна сабрала толькі 137 галасоў. Для прыняцця рэзалюцыі неабходна не менш як 242 галасы.

■ Віцэ-прэзідэнт ЗША Хэмфры, выступаючы днямі па тэлебачанню, заявіў, што Злучаныя Штаты ўцягнуты цяпер у справы Азіі і маюць намер заставацца ў Азіі вельмі доўга.

Хэмфры абараняў цяперашнюю агрэсіўную палітыку ЗША ў В'етнаме і практычна прызнаў, што безагаворачна падтрымліваючы вайну ў В'етнаме ён парваў свае сувязі з ліберальным крылом дэмакратычнай партыі.

■ У адпаведнасці з пажаданнем караля Афганістана Мухамеда Захір Шаха савецкі лётчык касманаўт Г. С. Цітоў прыбыў у Кабул у якасці госця міністэрства асветы і Кабульскага універсітэта.

■ Паводле даных на першае лютага 1966 года, насельніцтва Злучаных Штатаў Амерыкі склала 195 073 000 чалавек. У параўнанні з 1960 годам насельніцтва ЗША павялічылася на 15 750 000 чалавек.

## БССР

### МАЯ ЗАГРАНІЦА (6)
### СУСТРЭЧЫ І РАЗВІТАННІ

Ад Слоніма да Зэльвы недалёка. От, як з Беластока да Саколкі. Але шафёру якраз захацелася правесці рамонцік аўтобуса ў нейкай падслонімскай аўтабазе. Давялося траціць час. Пасажыры злаваліся і маўчалі — шафёр у дарозе заўсёды мае рацыю! Маўчаў і я. Зрэшты, я быў заняты: шафёраў знаёмы, бязвусы хлопец, адразу пазнаў мяне, як чалавека з Польшчы і пачаў роспыты. Ён паляк, называецца Людвік, паходзіць з вёскі Казлоўшчына — і мала што разумее па-польску.

Шафёр ламатаўся пад аўтобусам і кляў, Людвік фундаваў мне піва ў буфеце — ды пытаў, усё пытаў пра Польшчу. Потым я з Людвікам доўга яшчэ мясіў адліжны снег навокал аўтобуса — Людвік мае сваяка ў Гдыні, выбіраецца да яго, па дарозе хоча пабачыць рэдакцыю «Нівы». Думае ён аб Польшчы так, як кожны другі чалавек думае аб загранiцы, вядомай з газет і каляровых (прыветных) фільмаў.

Да Зэльвы прыехаў аўтобус са спазненнем, не лічачыся з ніякім раскладам язды. Тут я заставаўся. Людвік доўга махаў рукою з акна аўтобуса; дамовіліся сустрэцца ў Ваўкавыску — ён пакажа мне Ваўкавыск, я кончу яму расказ пра Польшчу...

Пагода паганая. Ішоў я па вуліцы местачковай Зэльвы бы па дрыгве, скачучы з адной купіны цвёрдага снегу на другую — а навокал веснавое разводдзе, хаця на свеце яшчэ месяц люты; ішоў я да хаты вядомай беларускай паэтэсы Ларысы Геніюш, не ведаючы, дзе яе хата. Пачаў пытаць — і з месца некалькі зэльвянцаў узялося праводзіць мяне. О, не першы я госць Зэльвы і Ларысы Геніюш — няма такога тыдня, каб хто не прыехаў з вялікага горада, з далёкай старонкі. Гонар зэльвянцаў вялікі, бо няшмат на свеце вядомых людзей, якія адракаюцца выгод вялікага горада, жывуць у вёсцы і быт у ёй цэняць перад усім, ездзяць аўтобусамі так, як усе...

Ларыса Геніюш была на панадворку. Была занята, як кожная зэльвенская гаспадыня — курамі, парадкам. Ад вуліцы гародчык, у якім увесну, пэўна, цвітуць вяргіні, астры; утульны ганак, сені і пах каморы, смольны парог і бэлькі, прасторная хата і беленая печ, стол і хлеб пад абрусам. Толькі пакоі іншыя, поўныя кніжак. Усюды кніжкі. Пасядалі за вялізным сталом. Ларыса Геніюш загаварыла са мною неяк пахатняму, па-сваяцку. Мне здалося, што я ў сваіх родных Крынках на Сакольшчыне — сяджу вось у ціхай крынкаўскай хаце, а над акном шумяць бярозы, недзе сакоча курыца.

Аказалася, Крынкі вельмі блізкія Ларысе Геніюш — тут яе сваякі, радня: цэлы дом Міклашэвічаў. Таксама ў вёсцы Хмялеўшчына пад Саколкаю — і ў Беластоку. У Беластоку сын Ларысы Геніюш — Юрка, лекар. Талент маці ўдзяліўся і сыну, Юрка піша апавяданні, якія друкуюцца ў «Ніве».

Ларыса Геніюш чытала мне свае вершы, я вельмі моцна прасіў, каб чытала. Слухаючы яе мовы беларускай-беларускай, як мая маладосць, я быў у Крынках — я не слухаў маткі, уцякаў над рэчку, краў мак на прыгуменні, чырванеў перад дзяўчынай, чуў вячэр-

(Працяг на стар. 4)

## ПОЛЬШЧА

### ЭСТАФЕТЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Па шматлікіх дарогах нашай краіны імчаць эстафеты Тысячагоддзя. Ёсць іх чатыры. **Эстафета Беласток — Гданьск** праходзіць па паўночна-ўсходніх землях, праз вёскі і гарады Беластоцкага, Ольштынскага і Гданьскага ваяводстваў. Другая эстафета, якая выехала з першай пасляваеннай сталіцы Польшчы — горада **Хэлм** і кіруецца ў **Калобжэг**, праходзіць баявым шляхам першай арміі Людовага Войска Польскага. Шлях трэцяй эстафеты распачаўся ў Любліне. Кіруецца яна на захад — у Згожэлец. Горад гэты адзначыўся ў нашай пасляваеннай гісторыі тым, што тут быў падпісаны дагавор між Польскай Народнай Рэспублікай і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай аб устанаўленні граніцы міру паміж абедзвюма краінамі на Одры і Нысе Лужыцкай. Па гэтай граніцы вядзе шлях чацвёртай Эстафеты Тысячагоддзя. Усе эстафеты, дзе б яны не праходзілі, мясцовае насельніцтва сустракае з вялікім энтузіязмам, перaказваючы рапарты аб прадукцыйных абавязацельствах у гонар Першамая і Тысячагоддзя.

### ПЕРАД ПЕРШАМАЕМ

У цэлай краіне спраўна праходзіць падрыхтоўка да святкавання Першамая. Падрыхтоўчай працай кіруюць спецыяльныя камітэты, у саставе якіх знайшліся прадстаўнікі партыі і страніцтваў палітычных, прафсаюзных, маладзёжных і грамадскіх арганізацый. На вуліцах і ў вітрынах крамаў паявіліся першамайскія плакаты і лозунгі. Штодзень паступаюць паведамленні аб рэалізацыі прынятых першамайскіх абавязацельстваў. Цэнтральная маніфестацыя адбудзецца ў Варшаве на плошчы Дэфіляд. З прамовай выступіць І сакратар ЦК ПАРП — Уладзіслаў Гамулка.

### ЛЕНІНСКІЯ ДНІ

Акрасай сёлетáшніх «Ленінскіх дзён» у Польшчы з'яўляецца выдатны польска-савецкі фільм «Ленін у Польшчы», аб якім мы ўжо пісалі. На ўрачыстую дэманстрацыю фільма, якая адбылася 22 красавіка, прыбылі ў Варшаву рэжысёр Сяргей Юткевіч, актрыса Анна Лісянская, якая іграе ролю Крупскай, і дырэктар «Мосфільма» Уладзімір Сурын.

### У АСВЕНЦІМЕ І ШТУТГОФЕ

У нядзелю 24 красавіка ў былых гітлераўскіх лагерах смерці Штутгофе і Асвенціме адбыліся галоўныя ўрачыстасці ў рамах «Месяца салідарнасці з міжнародным рухам супраціўлення».

Канцлагер Штутгоф быў першым лагерам смерці, якога гітлераўцы абсталявалі за межамі свайго райха. Памяшчаўся ён на тэрыторыі цяперашняга Гданьскага ваяводства. Першыя вязні трапілі за драты Штутгофа ўжо 2 верасня 1939 года. На працягу 5 год 8 месяцаў і 9 дзён існавання лагера праз яго пекла прайшло 117 тысяч вязняў шматлікіх нацыянальнасцей з усяе Еўропы. 80 тысяч сярод іх паглынулі газавыя камеры і печы крэматорыі. У тым ліку амаль 250 каталіцкіх ксяндзоў.

### ПРАМОВА УЛАДЗІСЛАВА ГАМУЛКІ..

...з якою выступіў ён на нядаўных урачыстасцях у Познані, выдана Познанскім выдавецтвам асобнаю брашурай. Яе можна купіць у кнігарні.

## ВАЯВОДСТВА

### З СЕСІІ ВРН

25 красавіка г. г. радныя ВРН сабраліся ў Беластоку на сваю чарговую сесію. Абмеркавалі яны гаспадарчае становішча ваяводства ў мінулым годзе.

Прыемна сцвердзіць, што на працягу 1965 года шматзначна (на 11,3%) павялічыўся даход гарадскога і вясковага насельніцтва. Рабочыя больш зараблялі, а сяляне больш прадавалі сваіх тавараў. (Нават прыкметна адчулі гэта ў рэстаранах, дзе продаж узрос на звыш 10% у параўнанні да папярэдняга года). У крамах і на кірмашах многа больш было сыру (на 34%), масла (30%), рыбы (24%), мяса і мясных вырабаў (20,3%). Калі прыпомнім сабе чэргі перад крамамі, якія ўтвараліся яшчэ год-два таму назад, дык зразумеем, што ёсць з чаго цешыцца.

Спрыяльна ў 1965 годзе кшталтавалася агульная гаспадарка Беласточчыны. Сяляне дабіліся найвышэйшай у гісторыі Беластоцкага ваяводства ўраджайнасці збожжавых культур — 16,5 цэнтн. з аднаго га. Яны нават перавыканалі наложаныя на іх планавыя заданні, калі разыходзіцца пра агульную хлебаробніцкую прадукцыю.

Павышэнню ўраджайнасці садзейнічаў вялікі прырост (на 26%) паставак штучных угнаенняў. Але цешыцца няма з чаго. Усё яшчэ астаемся на апошнім месцы ў краіне.

Наглядалася недастатковае зацікаўленне кантрактацыяй, асабліва ільну і тытуню.

Капіталаўкладанні ў сельскай гаспадарцы паглынулі ў 1965 годзе суму 786 мільёнаў 400 тысяч злотых. Тут аднак падвялі будаўляныя фірмы і арганізатары вясковага будаўніцтва. Яны не змаглі выкарыстаць звыш 50-ці мільёнаў зл. Найбольш нявыкарыстаных грошай засталося ў ПГР-ах (36 мільёнаў зл.) і ў меліярацыйных прадпрыемствах (11 мільёнаў зл.).

Прыгледзімся цяпер да промыслу. Тут наглядалася: высокі прырост прадукцыйнасці працы, больш інтэнсіўны прырост агульнай вытворчасці і лепшая арганізацыя прадукцыі. Тавары з беластоцкіх фабрык паспяхова прабівалі сабе дарогу на замежныя рынкі. Наша ваяводства мае сельскагаспадарчы характар і хіба таму аж 47% экспартных тавараў — гэта прадукцыя сельскагаспадарчага характару.

У крамах удосталь цяпер матацыклаў, радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, сціральных машын, халадзільнікаў і многа другіх прадуктаў, за якімі яшчэ ў 1964 годзе трэба было стаяць у чарзе.

Агульна кажучы — мінулы год паказаў, што мы памалу, але пастаянна багацеем.

Прыемна адзначыць, што сакратаром гэтай сесіі была радная Анастасія Тропак — дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя.

### ПЛЕНУМ ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ЗСЛь

22 красавіка адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта Аб'яднанага стронніцтва людовага. Пленум разглядала становішча сельскагаспадарчых гурткоў у нашым ваяводстве. Прысутныя вырашылі разгарнуць больш планаву апеку над дзейнасцю і развіццём гэтай ужо масавай сялянскай арганізацыі.

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 1.V.

7.40 Program dnia; 7.45 „W dniu Święta Pracy" — sprawozdania z uroczystości Pierwszomajowych w kraju i zagranicą; 13.40 „Śląsk tańczy i śpiewa" (Katowice); 14.40 Estrada Poetycka; 15.15 Dla młodych widzów: Kino Przygoda — „Ciotki na rowerach" — film fab. radz.; 16.30 Dla dzieci: „Legendy ciąg dalszy" — widowisko („Ula z II b"); 16.50 „Tele-Variete" — program rozrywkowy; 17.50 „Dwie epoki" — rep. film.; 18.10 „Ballada" — film. program rozrywkowy fr.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.15 „Czerwone berety" — film fab. pol.; 21.50 „Śpiewa Irena Jarocka"; 22.10 „Niedziela Sportowa".

PONIEDZIAŁEK, 2.V.

16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Poly i tajemnica siedmiu gwiazd" — film; 17.15 „Reforma szkolna" — („7 milionów młodych"); 17.30 „Eureka"; 18.00 „Papa się żeni" — film fab. pol (archiwalny); 19.20 Dobranoc; 19.25 „Alert harcerski"; 19.30 Dz. tel.; 20.00 Teatr TV: „Trzeci Maja" Jerzego Krasowskiego — dramat z roku 1791. Wykonawcy: Cz. Wołłejko, M. Pawlicki, B. Pawlik, E. Fetting, H. Boukołowski, St. Wyszyński oraz statyści; ok. 21.10 „Na półkach księgarskich"; ok. 21.20 Dz. tel.; ok. 21.30 „To szczęście być kobietą" — film fab. wł.; ok. 23.00 14 lekcja jęz. angielskiego;

WTOREK, 3.V.

9.55 Dla szkół: (kl. IX) Jan Ursyn Niemcewicz „Powrót posła" — („Dzieje dramatu"); 10.25 „Jadzia" — film fab. pol. (archiwalny); 11.35 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 Wiad. dz. TV; 15.50 Transmisja Telewizyjna; 18.20 Estrada Literacka: oparta na tekstach pisarzy Oświecenia. Wykonawcy: H. Bąk, T. Białoszczyński, M. Maciejewski, St. Niwiński; 18.55 Sprawozdanie sportowe; W przerwie ok. 19.45 Dz. tel.; 20.45 „Doktór filozofii" — film fab. jugosł.; 22.10 Dz. tel.; 22.40 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka. (Dwa rodzaje elektryczności. Elektryczność. Pola elektryczne). Wykładowca: doc. dr R. Gajewski; 23.10 15 lekcja jęz. franc.;

ŚRODA, 4.V.

10.05 „Dr Kildare" — film; 10.55 Dla szkół: (kl. lic.) „Panorama" — wiadomości o Polsce i Świecie; 11.25 Przerwa; 16.10 Program dnia; 16.15 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka (Koło styczne, sieczne, kąty w kole). Wykładowca: doc. dr R. Lejtner; 16.45 PKF; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Piraci rzeczni" — film („Przygody błękitnego rycerzyka") (Katowice); 17.10 Dla młodych widzów: „Twoje książki"; 17.35 „Na zdrowie"; 17.55 Tygodnik wiejski: „W chłopskich oczach"; 18.20 „Sylwetki X Muzy"; 18.50 „Sztuka i natura" — („Jak patrzeć na dzieło sztuki") Przed kamerą — prof. dr J. Białostocki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Dr Kildare" — film; 21.05 „Światowid"; 21.30 Recital fortepianowy; 21.50 Dz. tel.; 22.00 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka. (Koło styczne, sieczne, kąty w kole). (Wrocław); 22.30 15 lekcja jęz. ros.;

CZWARTEK, 5.V.

10.55 Dla szkół: (kl. VIII—XI) Język polski „Dramat" — („W obliczu XX wieku"); 11.25 Przerwa; 15.40 Program dnia; 15.45 15 lekcja jęz. franc.; 16.05 TV Kurs Rolniczy: „Gospodarka pastwiskowa"; 16.50 Wiad. dz. TV; 16.55 Dla dzieci. „Gawędy o zwierzętach"; 17.15 Dla młodych widzów: „Święto Kwitnącej Jabłoni" — („Wyprawy TV Przyjaciół"); 17.40 „Nie tylko dla pań" — mag.; 18.00 „Lira" — program muzyczny („Historia w obrazach"), 18.25 „Pod znakiem jakości" — program nr 8; 18.55 „Kwadrans zagadek" — teleturniej; 19.15 Dobranoc; 19.25 Sprawozdanie sportowe (Glasgow) Finał Pucharu Piłkarskiego Zdobywców Pucharów; W przerwie ok. 20.15 Dz. tel.; 21.15 Dz. tel.; 21.45 „23 kroki do Baker Street" — film fab. USA (kryminalny);

PIĄTEK, 6.V.

12.00 Dla szkół: (kl. IV) „W drukarni"; 12.20 Przerwa; 16.30 Program dnia; 16.35 14 lekcja języka angl.; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Zrobimy to sami"; 17.30 „Świat, który nie może zginąć" — film; 17.55 „Poligon" — TV przegląd wojskowy; 18.25 „Wielokropek"; 18.45 „Rozmowy o architekturze"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 „Z kamerą po kraju"; 20.15 Teatr TV: „Zdobyty horyzont" — scenariusz widowiska tv opracowała L. Zamków na podstawie powieści Gustawa Morcinka „Mat Kurt Kraus". Wykonawcy: L. Herdegen, J. Kamas, Cz. Pszczolińska, P. Połoński, A. Bazak, W. Ziętarski, L. Zamkow, (Katowice); ok. 21.45 „10 minut recenzji"; 22.35 Dziennik TV;

SOBOTA, 7.V.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „W stoczni gdańskiej"; 10.30 „Strzały w Arizonie" — film fab. USA; 11.50 Przerwa; 16.15 Program dnia; 16.20 Program dla nauczycieli; 16.35 Program tygodnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Finał VII Olimpiady o Polsce i świecie współczesnym; 18.00 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego"; 18.45 „Tele-Echo"; 19.20 Dobranoc; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Pegaz"; 20.45 „Przy sobocie po robocie" — „Hutnicy" — program rozrywkowy; 22.15 Dz. tel.; 22.45 Wiadomości sportowe; 22.50 „Strzały w Arizonie" — film fab. USA.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 89

*ЛЕАПОЛЬД ЛЕВІН*

### АБВІНАВАЧАННЕ

Зелень —
Лагодна
І добразычліва.
Сунімае
Боль вачэй;
Халодзіць
Распаленыя скроні;
Гоіць
Параненае сэрца

Але баюся
Ступіць крок наперад,
Каб не наступіць
На безымянную магілу...

*АННА КАМЕНСКАЯ*

### ПОРЫ ЖЫЦЦЯ

Усяму дана свая пара —
навучае Кніга.
Пара нараджэння, пара смерці.
Пара сяўбы, пара жніва.
Час мілавання і час нянавісці.
Час ежы, піцця,
час прагі.
Час плачу і час смеху
Дажджу. Спёкі.
Так мудрая Кніга вызначыла поры.
Але збльгталіся нам поры жыцця.
Нам
Час маладосці выпаў на час плачу.
Калі захацела ўвайсці радасць — не было месца.
Каханне спазнілася, прыйшло не ў свой час.
І толькі смерць наведвала нас
заўсёды своечасова.

А што сказаць каханню? — Не пара.
Радасці? — Не час.
Баляванню? — За рана.
Калі наш голад і прага
Праз усе часы рвуць нам вантробы.

Калі ж тады будзе адпаведні час?
Старыя, у апошнюю хвіліну пакахаем.
Галодныя, у апошнюю хвіліну наямося.
Спрагнёныя — апошняй слязой нап'емся.

*ЗБІГНЕЎ ЕЖЫНА*

### ЭЛЕГІЯ СЁМАЯ

Пройдзем усе нібы цёмны плач,
галіна, што плыве заўсёды міма неба.

Пройдзем усе нібы сухі вецер
перасоўваючы вялікі ветразь снегу.

Пройдзем усе ў нерэальных снах,
як абрыс твару, што сплывае ваду.

Пройдзем усе ценем сярод дня,
нават сонца не заступіць нам дарогі.

Пройдзем усе як іскра праз ноч
у бесперапынным пахаванні музыкі.

верасень 1965 г.

Пераклаў: *С. Раманчук*

*АЛЯКСЕЙ КАЗБЕРУК*

### РЭВАЛЮЦЫЯ

веюць ветры
буры — заўсёды у твар
акіяны — у мерзлату аблокаў
скалы растуць дарогай да дна
чалавек
гледзячы наперад
у цяжар чыну пераходзіць

не прынеслі яе у бусліных дзюбах
з няведаных краін
не найшлі сярод марскіх астравоў
не знялі з іншамоўных газет
па дазволу палітыкаў —
прышла з поля баёў праграных
іржою кайданаў
прарочым дыханнем асуджаных
далонню з крамачнай полкі

бунт рук
крыўдзе чырвонае запаліў святло
на начной дарозе перад плошчай світання
пераклічка загінуўшых не адбылася —
вызаў кінулі рашучы

Пераклаў *В. Рудчык*

ДЭБЮТ

## ПАЖАР

Вёска жыла размовамі аб Калядах. Канчаецца пост, надыйдзе час песень, забаў, жаніцьбаў — і святочнага настрою.

— У Марысі з Янкам вяселле муравана, — гаварылі маладыя і старыя. Вяселля ў мяшку не зробіш! Аб ім даведаюцца хутка ў вёсцы.

Аж тут — перад самымі Калядамі — у нядзелю вечарам крык ускалыхнуў вёскаю. — Людзі добрыя, ратуйце! Пажа-ар!! Вуліцай беглі людзі, хто з чым: з вядром, з пасудаю, якая трапіла пад руку. — А дзе ж гарыць?! — пыталі адзін аднаго. — Сярэдзіна вёскі гарыць! А хто? У каго?!

А гарэла ў Піліпа.

Жыў ён добра, меў сям'ю: жонку, дачку і зяця, меў маці і бацьку. Ды што гэта сталася? Падпаліў хто? А мо сам неасцярогся? Невядома...

Гарэла клуня. Клуня з дабром — сена, салома, воз, машыны, усё забіраў агонь. Вакол стала відна, як у дзень, іскры ляцелі далёка ў поле і на вёску. Дзесьці выў сабака. Клуня памалу дагарала, агонь як бы дражніўся з людзьмі, успыхваючы сям-там. Гасілі. Людзі выходзілі на вуліцу і абгаворвалі ўсё ад пачатку. На Піліпавым двары чуўся лямант, плач і нараканні.

— А дзе ж сам гаспадар? — пыталі адзін другога.

— А хто яго ведае...

Адны гаварылі, што паехаў у горад, другія зноў — што недзе на работу ў ПГР. Прыйшоў солтыс, сторож і міліцыянт, каб вызначыць варту нанач. Людзі разыходзіліся па хатах, каб даспаць астатнія гадзіны ночы. Назаўтра, у панядзелак, вёска выглядала як бы па-святочнаму, таму што вуліца была поўная людзей. Толькі людзі былі не ў святочным настроі — твары напружаныя і ў кожнага на вуснах слова, чаму? Хто вінаваты? Усе чагосьці чакалі...

Федзя сказаў:

— Ёсць гаспадар, знайшлі Піліпа!

— А дзе ён!?

— А там, на пажарышчы, у асмалках — згарэў...

— А што? Бачыце! — сказаў Кузьма. — Не казаў, што чуў выстрал, а вы мяне загаварылі, што мо хто па зайцах страляе...

(Працяг на стар. 5)

## ФРОНТ

Бабуля ўспамінае сваім унукам:

— Многа, дзеткі, пражыла я добрага і кепскага за сваё жыццё. Дваццаць год, як кончылася вайна, і вы, дзеткі, сталі ўжо вялікімі. Колькі пражылі мы цяжкіх хвілін у час вайны? Усё забылася. Толькі першай стрэчы з байцамі не забуду.

Было гэта тады, калі фрыцы дзень і ноч адступалі. Адступалі яны ўжо не панамі, не. Дзесьці ў бок нашай вёскі выбухла страляніна, і потым стала вельмі ціха. Мы павылазілі са сваіх схованак у Белавежскай пушчы. Свяціла сонца, і зямля выглядала па-святочнаму, спакойна і як бы весела. Тады ўбачылі мы байцоў.

Падышоў да мяне маладзенькі баец і папрасіў: — Пазволь, мамаша, папіць вадзічкі. Я кажу яму: — А можа табе, сынок, даць малачка? А ён кажа: — Нет, мамаша, лучшэ прахладнай вады, яна дасць сілу быстрэй гнаць ворага. Гавару яму: — Хутчэй ганіце гэтых паганцаў. Ваюйце шчасліва, а Бог вам дапаможа.

— Так, мамаша, — гаворыць мне баец. — Нам памагае наш бог вайны ды яшчэ як памагае! Фацысты бягуць пе-

(Працяг на стар. 5)

*Станіслаў Рышард Дабравольскі*

### НА PÈRE LACHAISE

RAVENSBRÜCK
ICI
REPOSENT
des CENDRES
de FEMMES DEPORTÉES
MARTYRES
de la BARBARIE NAZIE
1939—1945

*інскрыпцыя на помніку*

На могілках Пэр Ляшэз
бледныя рукі з мармуру цягнуцца ў неба
— чаго?
— літасцівасці просяць?.. помсты хочуць?..
справядлівасці?
Жыцця?
Не ведаю.
На Пэр Ляшэз
пад глухім каменным маўчаннем
спяць
побач злучаных з Парыжам касцей камунараў,
побач зветранага плашча паўстанца
Валерага Врублеўскага,
побач прахаў Генры Барбюса і Вайян Куцюр'е
святыя астанкі маёй Маці,
Уладзіславы з Ясінскіх,
не развеяных трывожным ветрам лістапада
1944 года
— кроў з крыві і косць з косці польскіх якабінаў.
Чаго просяць у неба рукі?
Свабоды? справядлівасці?
Жыцця?
Не ведаю?
Але ведаю, што заўтра — хутчэй смерць, чымсьці
ганьба другі раз.

*БОГДАН ДРАЗДОЎСКІ*

### НЕ МОЖАШ СПАЦЬ

Не можаш спаць. Мароз сцяў рэкі.
Не можаш спаць. Скразняк мычаў.
Не можаш спаць. І цяжкія павекі
Не падняць ўжо змучаным вачам.

І едзеш у падсон, з паўсна ў дрымоту
Да з'яў, абману і да монструм,
І дзе рука шукае ўпотай
Чагосьці на пустынях простынь.

Вазьму цябе на сонную планету,
Узыйду ў тваё бяссілле, гаркаватасць —
Ці не забыла ты бярлог з паэтам
І салому, у якую ты смяялася?

*

Маўчыш? Дык новы верш пішу, каб спала.
«Не можаш спаць» — пачну — «мароз мацнее»...
Або забыўшыся пра бога неяк
Замкну у дужках рук сваю я мару.

*ЮЛІЯН ПШЫБАСЬ*

### АВІДЗІЙ

Над Чорным Морам
у замёрзшым у асенніх кветках
горадзе — курорце
з дзесяці тысяч пустых пакоі
вышаў адзін я —
сам як шматтысячная адсутнасць чалавечая.

Чую чыйсьці погляд, аглядаюся, не вярнуся, сыйду
нізка, найніжэй над воду празрыстую —
у адплываючай лодцы
ад вострава, які астаўся маленькім
не большым, як пергамент разгорнутага «Трысцюм»

зрок далёкі і даўні так блізка,
як быццам нехта, хто глядзеў праз вякі, раздвоіў
воды касой на салёнае возера
і неадлітае з вачэй гэтае адно выгнанніцкае
мора аддзяліў з жалю невыразна
ад мора таго часу, мора без хвалі,
балючае як соль на языку,

што астаўся тут — як сляпы замкнуты ў дотыку,
і далей скапляе берагі, краі і ростані
на бедны гарызонт пешай фантазіі,
якая не вядзе нікуды —

А я дубею — і ў вочы мне падае
снегам белізна твайго ліста.

Не бачу — гасіць беласць сваю ў Балтыцы
снег, які прастор стварае паміж намі.

Пераклаў: *І. Чыквін*

## Сучасная жанчына

### АНГІНА

У сувязі з пісьмом Марыі А. з Бельска адказваю: Ангіна з'яўляецца вельмі заразліваю хваробаю. Перасцерагаць перад ёю трэба перш за ўсё малых дзяцей. Таму што пасля ангіны часта паўстаюць розныя хваробы сэрца, нырак. а таксама суставаў. І дзіця можа застацца на ўсё жыццё інвалідам. Тым больш, што яна (ангіна) паўтараецца некалькі разоў у год. А мы часта адносімся да гэтай хваробы абыякава.

Пры хваробе ангінай трэба, каб хворы вельмі многа піў вадкасці, найлепш цёплае малако, кампоты, кісель, гарбата з лімонам. Падкрэсліваю: піць толькі **цёплае**, а не **гарачае.** Карысным даваць хвораму многа вітамінаў: ягады, агародніну, садавіну і ўсялякія сокі. Ежа хворага павінна быць мяккай, каб не раздражняла слізістую абалонку. Рабіць цёплыя кампрэсы на шыю і паласкаць горла. І то часта паласкаць, кожную гадзіну, а нават часцей. Для паласкання бярэм шклянку гатаванай вады і раствор марганцавакіслага калію, борнай кіслаты або кухоннай солі (лыжачку солі на шклянку). Ёсць спецыяльны парашок для паласкання горла, называецца «Gargaryn».

Смараваць горла пры ангіне нельга. Гэта можа прывесці да завастрэння запалення.

Памяшканне, у якім ляжыць хворы ангінай, абавязкова трэба часта **ветрыць.** Як толькі пакажуцца сімптомы хваробы, трэба пайсці да лекара. Ён выпіша лякарства, што аблегчыць хваробу. А ангіна пры лёгкай форме звычайна канчаецца хуткім выздараўленнем (5—8 дзён) і без усялякіх ускладненняў.

**Аксіння**

# ФРОНТ

(Працяг са стар. 3)

рад ім, толькі пяткі відаць.

— А які гэта ваш бог? — пытаю яго.

— Бог ёсць адзін.

— У нас, мамаша, бог вайны — эта кацюша.

— Кацюша, сынок, гэта дзяўчына.

— Не, мамаша — хаця і дзеўчата вают у нас. А кацюша, эта наша баявое аружжа.

І так, здавалася, не будзе канца нашай размове, аж паявіўся іхні камандзір. Уставіў усіх у шарэнгу і павёў. А яны, хаця і змучаныя, заспявалі: «Ой, па моры, ой па сушы, па дарогам палявым, ходзіць руская кацюша, ходзіць шагам баявым».

Мы стаялі і глядзелі ўслед за імі. Было і радасна, і смутна.

**Грыша Мароз**

З ЖЫЦЦЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ

# У СЯБРАЎ ЯЎРЭЯЎ

Яўрэяў у Польшчы 20—25 тысяч. Нягледзячы аднак на гэты адносна невялікі лік, яны добра арганізаваны і праяўляюць актыўную і шматбаковую дзейнасць.

Нядаўна адбыўся V краёвы з'езд Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў, які падвёў вынікі чатырох год працы Таварыства, якія прайшлі ад мінулага з'езда. Скарыстаем з матэрыялаў з'езда і звернем увагу на некаторыя найбольш істотныя галіны дзейнасці яўрэйскай арганізацыі ў Польшчы.

Членаў ГКТЯ налічвае 7,5 тысяч (далёка нам да гэтай лічбы, хоць нас і ў дзесяць разоў больш). Але не лік членаў выклікае зайздрасць. Сапраўды можна пазайздросціць яўрэйскім сябрам дасканала арганізаванай выдавецкай дзейнасці. Яўрэйскае выдавецтва «Ідыш-Бух» у справаздачным чатырохгадовым перыядзе выдала 67 кніжак, перавыконваючы пастаўленае заданне (заданне было: «Кожны месяц кніжка для нашага чытача»). Варта адзначыць, што ў апошніх гадах «Ідыш-Бух» наладзіла таксама шырокую кааперацыю з прагрэсіўнымі выдавецтвамі ў іншых краінах. У адным толькі 1965 г. супольна з савецкім выдавецтвам «Новасці» «Ідыш-Бух» выдала дзённік Машы Рольнік «Я павінна расказаць»; разам з выдавецтвам «Ікуф» у Нью-Йорку — рад публікацый яўрэйска - амерыканскіх прагрэсіўных пісьменнікаў, а апошнім часам супольна з яўрэйскім выдавецтвам у Парыжы «На нова» паэтычны зборнік «Чалавеку насупраць», вядомай прагрэсіўнай паэтэсы Доры Тайтэльбаум. «Ідыш-Бух» здабыло шырокую папулярнасць. Кніжкі яго распаўсюджваюцца ў 24 краінах свету.

Апрача кніжных публікацый «Ідыш-Бух» выдае таксама літаратурна-грамадскі часопіс «Ідышэ-Шрыфтн». На працягу свайго дваццацігадовага існавання служыла яно яўрэйскім пісьменнікам у Польшчы творчым варштатам. Значныя дасягненні мае таксама і орган Таварыства, газета «Фолкс-Штыме», якая выходзіць некалькі разоў у тыдзень, і яе дадатак на польскай мове «Наш глос», які прызначаны, перш за ўсё, для моладзі, якая не ведае яўрэйскай мовы.

Выклікае захапленне адзін са спосабаў («бясцэнны» — як адзначае даклад) распаўсюджвання і папулярызацыі яўрэйскага друкаванага слова: камісіі кнігі і друку. Члены іх ходзяць ад хаты да хаты і расказваюць яўрэям, што можна вычытаць у іх газетах і кніжках (у нас гэты спосаб — утопія!).

Важную ролю адыгрывае яўрэйскі гістарычны інстытут, які дзейнічае пры Польскай Акадэміі навук і які вывучае гісторыю яўрэяў у Польшчы. Апрача навуковых доследаў, вядзе ён і выдавецкую дзейнасць. Музей Інстытута мае незвычайна вартасныя і багатыя экспанаты. У апошніх гадах вядзецца тут інвентарызацыя помнікаў яўрэйскай культуры ў Польшчы. Бібліятэка Інстытута налічвае 40 тысяч вартасных тамоў.

А яўрэйскі дзяржаўны тэатр? Субсідыяваны дзяржавай 3,5 мільёнамі зл. у год, стаўся ён адным з істотных рычагаў стварання яўрэйскай культуры ў Польшчы. За 20 мінулых год Яўрэйскі тэатр паставіў у Польшчы каля 100 прэм'ер. Здабыў ён таксама шырокую папулярнасць за межамі Польшчы. Выступаў ён, між іншым, у Францыі, Англіі, Бельгіі, Аўстрыі, ГДР, Бразіліі, Аргенціне, Уругваі, Ізраіле і іншых краінах.

Звяртае таксама ўвагу гаспадарчая дзейнасць Таварыства. Пры ім створана 16 спулдзельняў працы. Яны з'яўляюцца арганічнай часткай агульнапольскага Саюза спулдзельчасці працы. аднак паводле іх статуту 80% працаўнікоў павінны быць членамі Таварыства. Вартасць вытворчасці гэтых спулдзельняў склала ў 1965 г. 300 мільёнаў зл. акумуляцыя — 45 млн., даход — 27 млн. зл. Гэтыя спулдзельні частку свайго дахода прызначаюць на культурна-грамадскія патрэбы Таварыства. Менавіта ў год адводзяць яны Таварыству 1.700.000 зл.

Гэта вынікі! Імі, заслужана, ганарацца сябры з ГКТЯ. Віншуем.

**(ювэ)**

# ПАЖАР

(Працяг са стар. 3)

Ён застрэліўся і падпаліў. Хацеў, каб ніхто яго не знайшоў. Любіў аружжа і ад яго загінуў. А навошта?

— Страляў сабе ў грудзі!

— Смелы, — азваўся нейкі хлопец.

— Дурань ён быў, сынку, — сказаў дзядзька.

Пайшлі глядзець. Толькі глядзець не было чаго. Ляжаў Піліп сярод асмалкаў і сам быў як асмалак. Ляжаў гаспадар усяго дабра. Ляжаў, нічога не патрабуючы, а так замагаў, так стараўся, працаваў, а цяпер хацеў забраць з сабою. А навошта? Хто яго ведае, напэўна, такі яго лёс...

З ціхай пагоды ўсё змянілася, падуў вецер, закружыліся матылькі-сняжынкі, адзінока, як бы баючыся, а потым гусцей і хутка свежы снег прыкрыў зямлю. Снег, ён як бы хацеў прыкрыць усё гэта і каб вымазаць хутчэй з памяці людзей. Так і сталася, усё пайшло ў забыццё.

На Каляды сапраўды Марыся з Янкам пажаніліся. Уся вёска глядзела вяселле. Па хатах калядавалі дзеці і моладзь.

**Грыша Мароз**




### ГАЙНАЎКА

Гайнаўка адносіцца да наймалодшых і хутка развіваючыхся гарадоў Беласточчыны. З гістарычных крыніц вынікае, што паўстала яна ў XVIII стагоддзі. Зародкам яе была невялікая асада ляснога стражніка. Называлася яна Гайнаўшчызнай. Але пра Гайнаўку як пра вёску можа быць гаворка толькі ў XIX ст. У 1894 г. атрымала яна чыгунку, спалучаючую з Белавежаю і Бельскам. Камунікацыйная сувязь а таксама вялікія запасы каштоўнай драўлянай сыравіны ў Белавежскай пушчы былі прычынай, што нямецкія акупанты ў 1916 г. прывялі ў рух фабрыку хімічнай драўлянай пераапрацоўкі. Для ілюстрацыі варта тут сказаць, што ў 1921 г. вёска налічвала 748 жыхараў, а фабрычная асада каля 300. У міжваенныя гады паўсталі тут 2 тартакі, Праўленне лясных чыгунак, фабрыка шкіпінару «Тэрэбэнтэн», шмат акалічных смалакурань і іншыя. Адным словам Гайнаўка сталася вялікім прамысловым цэнтрам і рэвалюцыйнай барацьбы. Можна тут сказаць пра вядомы «Галодны марш» у лютым 1932 года рабочых Гайнаўкі пад дом Дырэкцыі ЛП у Белавежы, красавіцкія сутыкненні рабочых тартаку ў красавіку 1932 года, у час якіх быў забіты рабочы Ян Вэрпахоўскі, сутыкненні рабочых тартаку з паліцыяй у 1933 г. і 1935 г., галадоўку рабочых фабрыкі «Гродзіск», акупацыйныя забастоўкі ў фабрыцы «Тэрэбэнтэн» і ЗКЛ і іншыя. Кіравалі імі КПЗБ, КЗМ і ППС.

У гадах II сусветнай вайны Гайнаўка была вельмі знішчана. Зараз налічвае яна каля 13 тыс. жыхараў. У Гайнаўцы знаходзіцца камбінат драўлянай прамысловасці — ЗДПЛ, а таксама ЗСДД, ГЗПМЛ і некалькі іншых. Мае таксама шырока разбудаваную сетку пунктаў паслуг, рамесніцкіх, крам, бальніцу, атэль, лазню, 6 падставовых школ, 2 агульнаадукацыйныя і 2 прафесіянальныя.

У гэтым годзе Гайнаўка будзе святкаваць 50-годдзе свайго нараджэння як рабочага пасёлка. (бн)

# ПАЭТ НАШАЙ ДУМКІ

«Усё плывём
з табою муза плывём
над таямніцаю людскіх душ...»

**Яша Бурш, «Шляхі ўздыму»**

З паэзіяй Яшы Бурша (Янкі Анісэровіча) наш чытач сустрэўся ўжо даўно. Амаль восем год мы з выразным зацікаўленнем і вялікай прыемнасцю ўспрыймаем новыя адкрыцці глыбокага свету яго паэтычнага пераўтварэння навакольнай рэчаіснасці і адлюстраванні душэўных перажыванняў. Прыступаючы да агляду апублікаванай у «Белавежы» № 1 падборкі яго вершаў, прымаем яе як тыповую для творчасці паэта, асабліва з апошняга часу.

У асяроддзі «Белавежы» паэзія Я. Бурша вылучаецца своеасаблівасцю будовы верша, мастацкімі сродкамі і тэматыкай. Паэт, следам сучасных польскіх лірыкаў, імкнецца разбурыць натуральную канструкцыю сказа, адмаўляецца ад усіх знакаў пунктуацыі, насычвае верш тэхнічнымі тэрмінамі, пазбягае рыфмы, верш набліжае да скандэнсаванага фразеалагічнага выражэння. Усё сваё наватарства ў галіне формы падпарадкоўвае Я. Бурш сцісла акрэсленаму заданню — выразіць у вершы з максімальнай праўдзівасцю і дакладнасцю рух думкі і адчуванняў аднаго чалавека (у нашым выпадку — лірычнага героя) пад уздзеяннем яго сутыкнення са знешнім светам. І хаця разгледжаныя намі вершы дасца скласіфікаваць паводле іх зместу на: 1) паэтычныя дэкларацыі і развагі над уласнай творчасцю (асабліва ўданым з'яўляецца ў гэтай групе верш «Шляхі ўздыму»), у якім аўтар дае выраз сваім сумненням і спадзяванням у адносінах да ўласнай творчасці; 2) рэмінісцэнцыі з дзяцінства і прыродаапісальную лірыку; 3) найбольш багатую і найбольш удалую інтраспектыўную лірыку; аднак усе яны зводзяцца да выражэння супляцення адносін паміж «Я» адзіночнага чалавека і «Ім» светам, натоўпам іншых людскіх індывідуаў. І як вынікае з вершаў гэты «я» рэдка выходзіць пераможцам; часцей за ўсё ён пад націскам знешніх штуршкоў вымушан шукаць падтрымкі, апраўдання і спакою ў сваім індывідуальным унутраным свеце. Таму лірычны герой вершаў Я. Бурша перад чытачом паўстае як адзінка самастойная, валявая, даўно склаўшаяся, з невычарпальнай глыбінёй унутраных сіл. Такога героя ніхто з сучасных нам «белавежцаў» не здолеў запрапанаваць чытачу. Таму ў постаці вершаў Я. Бурша наша маладая «белавежская» паэзія зрабіла значны крок наперад у напрамку далейшага свайго развіцця.

Творчасць Я. Бурша пазбаўлена якой-колечы таннай сентыментальнасці, хныкаючай слязлівасці, дакучлівай хадульнай высокапарнасці, што вельмі часта ўласціва інтраспектыўнай лірыцы маладых паэтаў. Лірычны герой яе моцна зросся з сучасным яму грамадствам. Яго філасофскі роздум пазбаўлены спаквальнай млявасці, ён повен напружанасці ўнутраных сіл, жыва адклікаецца на падзеі ў знешнім акружаючым яго свеце.

Паэзія Я. Бурша створаная інтэлектам з высокай культурнай думкі і накіравана да чытача з высокім і патрабавальным паэтычным густам. Пры сучасным узроўні нашай творчасці яна з'яўляецца ў пэўнай меры камернай. І ў сувязі з гэтым нельга разлічваць на яе ўспрыйманне са слыху. Яна не «аудыяльная», яе нельга дэкламаваць, раскрываецца яна пасля трох-чатырохкратнага чытання. Прычынай гэтаму яе надзвычайная кандэнсацыя, насычанасць адлеглымі метафарамі, абмежаванасць да аналізу нюансаў псіхічнага жыцця чалавека. Гэта паэзія чэрствая ў сваіх сродках выразу і «тэхналагізавана» ў вобразах, але надзвычай сардэчная зместам і чулая ў трактоўцы чалавека.

У сувязі з тым, што Я. Бурш у сваёй творчасці практыкуе тактыку «ўзмоцненага ўдару» якраз маласлоўем, яму яшчэ трэба вельмі многа працаваць над слоўнікам. Яго тып творчасці вымагае ўліку ўсіх не толькі пабочных значэнняў, але найбольш нават адлеглых нюансаў значымасці кожнага, ужытага ў вершы, слова. Нельга дапускаць такіх недарэчнасцей, як напр. «абачлівасць азнак» («Самагартаванне»), «бязраднасць», «нябога» («Бязраднасць»), «параманада»! («Уцяшэнне»), «гарчыня» («Госць праўды»), «пяшчотнасць» («А калі б інакш?») і іншых, што так часта стракацяць у вершах Я. Бурша, зацямняючы сэнс верша і шкодзячы яго мастацкасці.

Здаецца нам, што Я. Буршу, як і ўсім маладым пішучым, трэба пазбягаць інфантыльных, зашорганых, стаптаных іншымі паэтамі вобразаў і праблем, як напр. вобразы «шляхоў жыцця» і «шукання долі» ў вершы «Церні крывізнаў». Не варта таксама даходзіць да крайнасцей сарказму над сучасным светам, як гэта мы бачым у вершы «Пераймальнасць», не быць той «жоўтадзюбай крытыкай», што «раздзёўбвае дваццатае стагоддзе» («Зонд»).

У вершах Я. Бурша чалавецтва — гэта бясконцая, усёаб'емная, усцяж нарастаючая і непераможная глыба, чалавек жа — бясконца малая пясчынка, якая з'яўляецца неад'емнай часткай яе. І добра, што свой адметны паэтычны талент прысвяціў Яша Бурш іменна гэтай пясчынцы, паказваючы яе неабмежаваную сілу, багацце яе ўнутранага свету, яе здольнасць не толькі **ілюстраваць,** але і прапанаваць нешта ў сваёй творчасці. Гэта пад сілу Яшу Буршу, і па яго пяру мы спадзяемся яшчэ шмат арыгінальных прапаноў мастацкіх візій.

**Мікалай Гайдук**
Бельск - Падляшскі



**НА ВАШУ ДУМКУ?..**

**— Што? Новая дзіцячая гульня? Навука пажартавала з вас. На здымку лячэнне пры дапамозе тубуснага кварца (6-я гарадская аб'яднаная бальніца г. Мінска).**

## КАБ ДОЎГА ЖЫЦЬ

Што з'яўляецца таямніцаю даўгавечнасці? Чаму нямногія толькі людзі дажываюць да старэчага ўзросту, перавышаючы 100 гадоў? Над даследваннем гэтай таямніцы працуе шмат вучоных усяго свету. Апошнім часам у ЗША лекары правялі дакладныя агляды на 400 жанчынах і мужчынах, якія закончылі 95 год жыцця. Гэтыя агляды, а таксама вельмі дакладныя інтэрв'ю з жыцця старых мелі на мэце знайсці аднаго або некалькі фактараў, якія мелі ўплыў на даўгавечнасць.

І што аказалася? Нічога цікавага лекары не знайшлі. Ніякіх спецыяльных дыет. Дзядулі і бабулькі не рабілі нічога з думкаю аб прадаўжэнні свайго жыцця. Адзінаю супольнаю рысаю гэтых 400 жанчын і мужчын было: нармалізаванае, спакойнае жыццё, добры здаровы сон, брак схільнасці да абжорства і пітва звыш нормы, а таксама — шлюбнае, сямейнае жыццё, якое ўспаміналі як найбольш прыемны, найбольш шчаслівы перыяд іх жыцця. (ліў)

## УСЁ АБ ФІЛЬМЕ

### НА 50 ГАДАВІНУ РЭВАЛЮЦЫІ

Савецкае кіно рыхтуецца да 50-годдзя Рэвалюцыі. Ужо прыступілі савецкія творцы да работы над фільмамі, якія ўвойдуць на экраны ў 1967 г. Вось некаторыя з іх: 2-серыйны па Сіманаву **«Ніхто не родзіцца салдатам»**, па Твардоўскаму **«Васілій Цёркін»**, раман Кажэўнікава **«Шчыт і меч»**, Чарнышэўскага **«Што рабіць?»**, Дастаеўскага **«Злачынства і кара»**, фільм на аснове казак з «1001 ночы» — **«Чарадзейская лямпа Аляддына»**, Гогаля **«Тарас Бульба»**, Бека **«Валакаламская шаша»**.

### У 1966 ГОДЗЕ..

...19 кінастудый СССР выпусціць 124 фільмы, у гэтым 41 каляровы і 48 шырокаэкранных. 30 фільмаў зробіць «Масфільм», па 16 «Ленфільм» і украінскія кінастудыі.

10 фільмаў будзе прысвечана Рэвалюцыі (у гэтым 3 — Леніну), 19 — гісторыі, 17 — вызваленчай вайне, 23 — моладзі і дзецям.

### РАЗАМ

**Станіслаў Лем** вядомы польскі пісьменнік — фантаст падпісаў умову з «Масфільмам» на экранізацыю сваёй аповесці **«Салярыс»**, аб палёце Чалавека ў Космас.

Лем кажа, што спачатку не хацеў, але калі даведаўся, што фільм будзе рабіць **Андрэй Таркоўскі**, згадзіўся. Што гэта будзе за фільм, пабачым. Адно вядома: творцы выбралі нялёгкае заданне. Хоць бы вось: як паказаць у фільме разумны акіян, які думае. (вл)

ЦУДЫ НАШАГА ВЕКУ

## КРУГОМ СВЕТУ ПАД ВАДОЙ

На пачатку красавіка г. г. разышлося па свеце кароткае паведамленне ТАСС: **савецкія атамныя падводныя ваенныя лодкі не выплываючы на паверхню вады, праплылі шлях, які праходзіць навокал нашай планеты.**

Вестка выклікала вялікае зацікаўленне ва ўсім свеце. Асабліва моцна знервавала яна камандванне амерыканскага ваеннага флота, якое дагэтуль пры кожнай нагодзе галасліва расслаўляла свае атамныя падводныя судны.

Каб задаволіць усіх зацікаўленых, газета «Праўда» надрукавала артыкул галоўнакамандуючага Ваенным флотам СССР адмірала **Гаршкова**, які расказвае аб подзвігу савецкіх маракоў.

Падводнае падарожжа навакол свету завяршылі яны ў атамных лодках на працягу паўтара месяца. За гэты час атамныя судны прайшлі пад вадой каля 40 тысяч км, ані разу не паказваючыся на паверхню. Шлях іх праходзіў пры надта ж неспрыяльных умовах. Лодкі плылі непадалёк берагоў Паўднёвай Амерыкі, некалькі разоў пераходзілі экватар (рувнік), знайшліся таксама сярод падводных ледзяных гор Антарктыкі.

Маракам не давялося адпачываць. Яны праводзілі баявыя выпрабаванні і навуковыя доследы.

Судны пастаянна ўтрымоўвалі сувязь па радыё з сядзібай галоўнага камандвання. Яны абяспечаны электранічнымі абсталяваннямі такога роду, што могуць звязвацца па радыё з любога пункта зямнога шара са сваёй Радзімай.

Кругасветнае падарожжа савецкіх падводных атамных лодак пацвердзіла іх высокую спраўнасць, безадбойную працу і баявую гатоўнасць пры кожных знешніх умовах. Гэтыя судны могуць дабрацца пад вадой да любога кусочка нашай планеты.

— Савецкі Саюз, — заявіў адмірал Гаршкоў, — мае ў сваім распараджэнні магутны сучасны ваенны флот. Асновай баявой яго сілы з'яўляюцца атамныя ваенныя судны, узброеныя магутнымі атамнымі ракетамі. Таму мы ў кожную хвіліну гатовы даць адпор агрэсару ўсюды там, дзе гэта спатрэбіцца, хаця Савецкі Саюз не мае сваіх ваенных баз у другіх краінах.

З паясненняў адмірала Гаршкова вынікае, што савецкія падводныя караблі ўжо раней дакладна даследвалі воды пад ільдамі Арктычнага акіяна.

**Нейтрына**

*Мала, але цікава*

### *ДЗІЦЯ МАЕ ДЗІЦЯ*

*Ад нейкага часу наглядаецца паскарэнне перыяду паспявання ў дзяўчат ва ўсім свеце. Зразумела, дзяўчаты паўднёвых краін б'юць тут рэкорды. Нядаўна ў Перу 8-гадовая дзяўчынка зацяжарыла. У Мексіцы 10-гадовая дзяўчынка нарадзіла блізняты. Гэтая прэсавая цікаўнасць з'яўляецца жахлівай рэчаіснасцю. Бо што можа даць свайму дзіцяці некалькігадовая маці — дзіця?! (ліў)*

### *ВАРТА ВЕДАЦЬ...*

*Калі ў час прасавання вы злёгку падпалілі тканіну, намачыць пляму растворам борнай кіслаты, а затым памыйце рэч у вадзе пакаёвай тэмпературы.*

*

*Свежая пляма ад яйка на шаўковай і баваўнянай тканіне абмываецца толькі халоднай вадой. Калі вы будзеце мыць рэч у гарачай вадзе, то жаўцізна не знікне.*

*

*Цвік лёгка забіць нават у самае цвёрдае дрэва, калі яго вастрыё змазаць мылам і акунуць у алей.*

### *ЯКІ КОЛЕР ЧАРНІЛА ЛЕПШЫ?*

*Розныя колеры не аднолькава ўздзейнічаюць на зрок чалавека. Менш за ўсё стамляе вочы зялёны колер. Ён садзейнічае зніжэнню ўнутрывочнага ціску. Вось чаму так прыемна глядзець на зеляніну.*

*Але калі мы пішам ці чытаем, для аблягчэння работы зроку асабліва важны кантраст паміж фонам (паперай) і літарамі. Чым большы кантраст, тым менш стамляюцца вочы. Найбольшы кантраст з белай паперай дае чорнае, цёмна-фіялетавае і сіняе чарніла. Асабліва стамляюцца вочы ад чырвонага чарніла.*

*АЛЯКСЕЙ КАРПЮК*

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

*На наступны дзень пасля разгрому заходжу на «пошту» і са здзіўленнем бачу сваю... вопратку! Але сам бацька не з'яўляецца. Па Ліпніках пачынаюць лазіць немцы і паліцаі, даводзіцца асцерагацца. Трывожуся не на жарт, а бацька ўсё не ідзе і яшчэ праз дзень. Сувязны перасцерагае: жандармерыя намерваецца ўзяць старых! Паднімаю атрад на ногі, падкрадваемся пад хутар, залягаем у жыце. Ідзе Кірыліха:*

*— Раніцой Нічыпар з Манькай адправіліся ад мяне ў лес! А жандары ўчора ў вас усё падчысцілі. І малатарню, і рэчы, і зерне, і жывёлу... На дваццаці падводах дабра ў Гарадок павезлі. Солтысу загадалі ў хаце ўсё вымыць, вычысціць і ключы прывезці ў камендатуру...*

*— Няхай імі пацешацца! Бывайце, цётку...*

*Нібы развязалі рукі. Пачынаю азірацца, што б такое ўчыніць, каб адпомсціць. Зрабіць на немцаў засаду? На гэта мы заслабыя яшчэ. Зноў застаецца чыгунка. Дагэтуль мы асцерагаліся, блізка лагера немцаў не дражнілі. Зараз закладай міну ў любым месцы, абы ўдалося!*

*Нагрувашчаныя вагоны за двое сутак немцы развалаклі, пуці адрамантавалі, ад учарашняга вечара зноў ходзяць паязды. Толькі цяпер ноччу вартуюць строга, цягнікі паўзуць сем кіламетраў у гадзіну, яшчэ перад сабой піхаюць платформу з пяском. Пры такой хуткасці выбух не прычыніць поезду шкоды. Затое ўдзень на чыгунцы нікога няма, паязды імчаць, нібы ў даваенны час.*

*У немцаў нават таварныя хадзілі строга па графіку. Дастаю Курцэвічаў графік. З камісарам выбіраем кур'ерскі, які на ватмане вызначаецца самай тлустай лініяй пад шыфрам «Зондэрфарт 53», а Сухія Багенцы мінае а гадзіне 13.10. Поезд заўсёды мае восем суцэльнаметалёвых пульманаў, ім з фронту на пабыўку ў Германію ездзяць салдаты і афіцэры вайсковай групы «Цэнтр». Усім атрадам вырушаем на пуць.*

Працяг будзе



**Ліпнікі. Месца стаянкі атрада.**

Фота Ул. Паўлючук, 1965 г.

# ЯК КІНУЦЬ КУРЫЦЬ

Пайшлі чуткі, што я кінуў курыць...

Распускаў я іх сам — хацелася ведаць, што будуць гаварыць пра гэта мае блізкія і знаёмыя. Не паверылі.

Пакрыўджаны людскім недаверам, я і сапраўды раз і назаўсёды рашыў пазбавіцца кепскай звычкі.

Кідаць курыць лепей за ўсё з раніцы. Так я і зрабіў. Толькі перад тым, як легчы спаць, выкурыў запар тры папяросы, бо ведаў, што яны будуць апошнія.

Раніцаю прачнуўся і пацягнуўся да партсігара, які ляжаў на стале, але тут успомніў аб сваім учарашнім намеры і неахвотна адвёў руку.

Апрануўся, стаў ля акна і пачаў глядзець на вуліцу. Курыць хацелася неймаверна. Было яшчэ вельмі рана, прахожых не было. «Калі першай пройдзе жанчына, то курыць не буду, а калі мужчына, то, так і быць, выкуру адну», — падумаў я.

Прачнулася жонка.

— Не тырчы ля акна, як ідыёт, — сказала яна. — Ідзі на кухню і прыгатуй каву.

— Не нервуй мяне. Я кінуў курыць, — сказаў я.

Жонка паглядзела на мяне так, як глядзяць на звычайную канапу, калі б той прыйшла думка заявіць, што яна — англійская каралева.

— Не мялі пустога, — адрэзала мая палавіна. — Сказаў бы гэта таму, хто цябе не ведае. Хто ж паверыць табе?..

«Вось як, — падумаў я абурана, — нават уласная жонка не хоча верыць».

Настрой адразу сапсаваўся. Я ўзяў партсігар і выйшаў на ганак. Калісьці я чуў ад некага, што кідаць курыць адразу — шкодна, гэта можа адмоўна адбіцца на нервовай сістэме. Каб такога не здарылася, я выцягнуў папяросу і выкурыў яе з вялікай асалодаю.

Што ні кажы, а ўсё ж добра не курыць! Дыхаць лягчэй стала, ды і настрой прыўзняты. Проста памаладзеў.

На работу прыйшоў бадзёры, як агурочак. У калідоры сустрэў свайго даўняга сябра, рахункавода Язэпа. Той убачыў мяне і крычыць:

— Здароў, Сымоне! Кажуць, ты курыць кінуў.

— Хай гаворыць, — сціпла адказаў я. — Дый табе, браце Язэп, раю расквітацца са шкоднай звычкай, бач як пажаўцеў ты ад тытунёвага дыму! А я ўжо ў рот не вазьму. Не! Маё слова моцнае. Сказаў — і канцы. Раз і назаўсёды.

Відаць, мае словы зрабілі на Язэпа добрае ўражанне. Ён глядзеў на мяне з павагаю, як на касманаўта, які толькі што вярнуўся на Зямлю. А я, усхадзіўшыся, працягваў крыць далей:

— Галоўнае тут — сіла волі. Зразумеў? Мяне нават зараз і не цягне да курыва. Хачу — куру, хачу — не! Усё адно. Не верыш? Даставай папяросу. Вось глядзі!

Я ўзяў у Язэпа папяросу, прыкурыў, зацягнуўся раз-другі, пакуль не высмактаў усю, затым спакойна шпурнуў акурак у сметніцу.

— Вось бачыш? А ты не верыў. Кха! Выкурыў — і ніякай асалоды. Волю загартоўваць трэба, браце. Кха!

Сваё раўнадушша да тытуню я працягваю дэманстраваць перад знаёмымі па сённяшні дзень. Палепшыўся мой асабісты бюджэт: не трэба траціцца на пакупку курыва. Так што кінуць курыць можна. Не верыце? Тады давайце папяросу!

**Ул. Харкевіч**




**Доўгі язык карысна прыкусіць: тады ён якраз памесціцца за зубамі.**

### СПАСЫЛАЎСЯ

**Ад спрэчак Асёл не ўхіляўся —**
**У іх нараджаецца ісціна.**
**Аднак, замест доказу, ён спасылаўся**
**На ўласную лысіну.**

**ПАВЕЛ ШЫБУТ**



Хто пра што думае вясною.

### ЧАМУ ВЫЙШАЎ

**На прадстаўленні новай п'есы адзін гледач устаў і пайшоў да выхаду. Аўтар, які прысутнічаў на спектаклі, дагнаў яго і зашаптаў:**

**— Прабачце, грамадзянін, але п'еса мае яшчэ дзве дзеі.**

**— Вось таму я і выходжу, — адказаў гледач.**

### ПАГРОЗА

Маладая маці прыйшла з дачкою ў Луўр, спынілася перад Венерай Мілоскаю і, уздыхнуўшы, сказала:

— Вось і цябе, мая дачушка, чакае тое ж самае, калі ты не кінеш грызці кіпцюркі.

### ЦІ ЎДАВА

— Вы ўдава?

— У гэты момант — так...

### МЕДЫЦЫНАМАНІЯ

Адна пані спытала ў фармацэўта пра якасці новага медыцынскага прэпарата.

— Купляйце хутчэй, пакуль яшчэ не выйшаў з моды, — параіў аптэкар.

### І АДТУЛЬ ДАСТАЕ

Па дарозе дадому пасля пахавання цешчы зяць убачыў, што да яго ног падае чарапіца. Ён інстынктыўна зрабіў крок назад і сказаў сваёй жонцы:

— Глядзі, дарагая, твая маці ўжо ўзнеслася.

### ЗНІКНЕ

*На ўроку хіміі настаўнік звяртаецца да вучня:*

*— Што будзе з золатам, калі яго пакінуць на адкрытым паветры?*

*— Яно знікне, — адказаў вучань.*

### МАЕ РАЦЫЮ

*— Чаму ты так крычыш?*

*— Ды даводжу яму, што не маю рацыі.*

### ЯК ДОБРА

*— Мамачка, як добра, што я не конь! — гаворыць маленькі Вова, мыючы перад сном ногі. — Ты гэтаму рада?*

*— Яшчэ б!*

*— І я вельмі рады. А то мне прыйшлося б мыць чатыры нагі.*

### НЕ ПАЧУЕ

*Леначчына бабуля перад люстэркам надзявае кліпсы. Леначка, якая назірала за ёй, раптам спытала:*

*— Бабуля, ты ў кіно збіраешся?*

*— У кіно, унучачка.*

*— А навошта ты вушы на гузікі зашпіліла? Ты ж нічога не пачуеш!*

### ЦІ ДАРАГОЕ

*— Чарніла вельмі дарагое, тата?*

*— Не, а што?*

*— Мама чамусьці вельмі раззлавалася, калі я разліў яго на дыван.*

## ДУМКІ ЎСЛЫХ І АПАЛОНІКА

Кожны чалавек мае схільнасць да калыхання сваіх жаляў.

*

За песімізмам часта хаваецца самая звычайная абыякавасць.

*

Губамі зложанымі ў трубку нельга заступіць кавальскага мяха.

*

Чалавек, які ўгінаецца пад багажам цяжарных думак, топчацца на адным месцы.

*

І ў тэлевізійным экране бываюць пустыя акенцы.






Усё людскае нам не чужое.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**На просьбе Марысі Міхалоўскай з Гурнага Груда, Гайнаўскага павета, і Аляксандра Жукоўскага з Гарадка, Беластоцкага павета, змяшчаем рускую народную песню п.з.**

## Однозвучно гремит колокольчик



Однозвучно гремит колокольчик,
И дорога пылится слегка,
И уныло по ровному полю
Заливается песнь ямщика.

Сколько чувства в той песне унылой!
Что в груди моей хладной, остылой
Столько грусти в напеве родном,
Разгорелося сердце огнём.

И припомнил я ночи другие
И родные поля, и леса,
И на очи, давно уж сухие,
Набежала, как искра, слеза.

Однозвучно гремит колокольчик,
Издали отдаваясь слегка,
И замолк мой ямщик, а дорога
Предо мной далека, далека...



Эх, як цяжка быць джэнтэльменам..



— Калі вы зараз зможаце сесці ў аўтобус, прымем вас кандуктарам.